# НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 9 (209)

28 ЛЮТЫ 1960 г.

БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Цана 60 гр. Cena 60 gr.


## VIII ВАЯВОДСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАРП у БЕЛАСТОКУ

Як мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары, 21 і 22 лютага праходзіла ў Беластоку VIII ваяводская канферэнцыя Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі.

Канферэнцыя аценіла працу Беластоцкай партыйнай арганізацыі за перыяд, які прайшоў ад папярэдняй канферэнцыі, паставіла заданні на бліжэйшыя 2 гады і выбрала новы склад Ваяводскага камітэта.

Канферэнцыя сцвердзіла, што Беластоцкая партыйная арганізацыя, перамагаючы шмат цяжкасцей, у мінулыя 3 гады правяла сур'ёзную працу над арганізацыйным і ідэалагічным узмацненнем партыйных шэрагаў, павялічыла свой уплыў на сукупнасць гаспадарчага, палітычнага і культурнага жыцця ваяводства.

Да заданняў пастаўленых Канферэнцыяй, яшчэ не раз будзем вяртацца, сёння адзначым галоўныя.

Ітак, у галіне ідэалогіі, канферэнцыя пастанавіла ўмацоўваць сярод працоўных перакананне аб перавазе сацыялістычнага ладу над капіталістычным, змагацца з уплывам імперыялістычнай прапаганды і ідэалогіі, фармаваць сацыялістычную свядомасць працоўных, укараняць асновы сацыялістычнай маралі, наблізіць партыйную прапаганду і агітацыю да жыцця, да актуальных заданняў партыі ў пабудове сацыялізма.

У галіне прамысловасці канферэнцыя пастанавіла, між іншым, павялічыць зацікаўленне і адказнасць партыйных інстанцый за эканамічныя справы.

У галіне сельскай гаспадаркі пастаноўлена ўсебакова развіваць і арганізоўваць сельскагаспадарчую вытворчасць шляхам пашырэння і ўмацавання сельскагаспадарчых гурткоў, а таксама ўмацоўваць і далей развіваць сацыялістычную гаспадарку.

У галіне асветы і культуры Канферэнцыя пастанавіла ўзмоцніць працу партыйных інстанцый над забеспячэннем сацыялістычнага выхавання моладзі і ўзмоцніць кантроль партыйных інстанцый над ідэйным зместам дзейнасці ўстаноў, якія займаюцца распаўсюджваннем культуры.

Канферэнцыя праходзіла ў дзелавой, гаспадарскай абстаноўцы. Яе праца і прынятыя пастановы з'яўляюцца рэалізацыяй заданняў, пастаўленых III-ім З'ездам нашай партыі.

У працы канферэнцыі прыймаў удзел сакратар ЦК ПАРП Ежы Альбрэхт.

Пленум новавыбранага камітэта складаецца з 69 членаў. Між іншым, у склад новага ВК ПАРП у Беластоку выбран старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Уладзімір Станкевіч.

Пасля заканчэння працы канферэнцыі адбылося першае пленарнае пасяджэнне новага Камітэта, на якім выбрана кіраўніцтва Камітэта.

У Бюро Ваяводскага Камітэта ўвайшлі:
Аркадзь Лашэвіч — I сакратар ВК,
Пётр Любінецкі — сакратар ВК,
Станіслаў Кудла — сакратар ВК,
Аляксандр Младзяноўскі — сакратар ВК,
Юзэф Зюлкоўскі — член Бюро,
Казімір Новак — член Бюро,
Юзэф Родзік — член Бюро,
Сяргей Рубчэўскі — член Бюро,
Казімір Хацішэўскі — член Бюро,
Станіслаў Юхніцкі — член Бюро

Перадз'ездаўская дыскусія

## ПАШЫРЫМ гаспадарчую дзейнасць „БЭТЭСКІ"

М. БАРАВІК СТАРШЫНЯ «БЭТЭСКІ»

Прамыслова-гаспадарчае праўленне «Бэтэска» — гэта маладое дзіця Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы. Створана яно ў 1958 годзе, каб павялічыць патрэбныя для культурна - асветнай дзейнасці фінансавыя сродкі Таварыства і адначасова дапамагчы ў актывізацыі беларускага насельніцтва ў эканамічным развіцці нашай краіны.

Як выконвае гэтыя заданні «Бэтэтска»?

З якімі дасягненнямі ідзе «Бэтэска» на спатканне III З'езду БГКТ?

Першыя крокі ў галіне прамыслова - гаспадарчай дзейнасці былі не вельмі ўдалыя. Кіраўніцтва праўлення «Бэтэскі» ў сваёй працы зрабіла шмат памылак і хібаў, якія адбіліся на эканамічных выніках арганізаванага ў Варшаве прадпрыемства. 1958 год амаль што не даў даходаў.

Маючы ўжо вопыт і дасведчанне, Прэзідыум Галоўнага Праўлення БГКТ у канцы 1958 года вырашыў пашырыць гаспадарчую дзейнасць і на Беласточчыну. З гэтай мэтай паклікана ў пачатку 1959 года грамадскае праўленне «Бэтэскі» з 9 асоб. У праўленне «Бэтэскі» ўвайшлі вопытныя людзі. Дырэктарам Варшаўскага аддзела «Бэтэскі» стаў вядомы беларускі дзеяч Пётр Ластаўка, а дырэктарам Беластоцкага аддзела — Кастусь Сідаровіч. Членамі праўлення выбраны мгр. Ю. Туронак, мгр. Ул. Юзвюк, К. Майсеня, К. Хлябіч, Ул. Навіцкі, Ф. Садоўскі і М. Баравік.



М. Баравік

У 1959 годзе прадпрыемства Варшаўскага аддзела займалася вытворчасцю пластмасавых вырабаў і спажывецкіх арамат. У сакавіку 1959 г. Варшаўскі аддзел арганізаваў пякарню ў Гайнаўцы, якая здабыла добрую славу якасцю сваіх вырабаў сярод насельніцтва Гайнаўкі.

Беластоцкі аддзел распачаў працу ў сакавіку мінулага года. У асноўным, праца аддзела была накіравана на эксплуатацыю жвіроў і каменя, вельмі патрэбнага і каштоўнага будаўнічага матэрыялу.

На працягу года ў прадпрыемствах «Бэтэскі» працавала ў сярэднім каля 100 асоб. Гаворачы аб дасягненнях «Бэтэскі», трэба падзякаваць усяму калектыву за яго сапр ды ахвярную працу. Асабліва многа зрабіў Пётр Ластаўка. Нягледзячы на розныя перашкоды, ён патрапіў упарадкаваць прадпрыемства ў Варшаве і наладзіць экспартавую прадукцыю супрацьсонечных акуляраў, якіх ужо выслана за граніцу больш 5000 штук. Такім чынам дапамог ён дзяржаве ў пашырэнні экспартавай прадукцыі. Не малую работу зрабіў і Кастусь Сідаровіч. Ён арганізаваў працу Беластоцкага аддзела, не карыстаючыся дзяржаўнымі крэдытамі.

Як бачым, прамыслова - гаспадарчае праўленне «Бэтэска» ідзе насустрач III З'езду нашага Таварыства з даволі добрымі вынікамі. Ці гэтыя вынікі нас

(Працяг на стар. 2)

## ГЭТАГА НЕ забыць ніколі

У калідоры інтымны прыцемак. Пад паталком звіваюцца, быццам павуціна, шматкаляровыя істужкі. Высока ў кутку смяецца малодзенькі месяц. Аркестр іграе першы вальс. Пачаўся традыцыйны бал абітурыентаў Бельскага беларускага ліцэя. Кончыўся танец, дзяўчаты і хлопцы бяруцца пад рукі і пачынаюць спяваць песні. Да моладзі далучаюцца настаўнікі. На просьбу дырэктара гучна спяваюць жартаўлівую песню «Седая борода». Паветра звініць радасцю, маладосцю, бестурботнасцю. Беспрыкметна праходзіць час. На гадзінніку ўжо палова дзесятай. Ганаровы гаспадар сённяшняга вечара, дырэктар Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч просіць усіх за стол. У зале, дзе штодзень нармальна вучацца дзяўчаты адзінаццатага класа, зараз доўгія сталы ўгінаюцца ад шматлікіх страў. Пад сваёй талеркай знайшоў я вось такую картачку: «Жыццё не сад, у якім растуць толькі адны кветкі». Аказалася, што падобныя картачкі з запісанымі на іх рознымі думкамі былі падложаны пад кожную талерку.

(Працяг на стар. 2)

 

# ГЭТАГА НЕ ЗАБЫЦЬ НІКОЛІ

(Працяг са стар. 1)

На галоўнай сцяне асветлены каляровымі лямпачкамі скромны плакат: «100 ДЗЁН».

Так, абітурыентам засталося ўсяго 100 дзён да часу, калі яны ўжо назаўсёды разеітаюцца з сваёй школай і раз'едуцца на ўсе бакі вучыцца далей ці працаваць. Аднак, апошнія тры месяцы — гэта ў іх час цяжкай працы, недаспаных ночаў і неадступнай трывогі. Можна тады сёння гуляць і весяліцца і нават супольна выпіць чарку віна. І абітурыенты першы тост п'юць у гонар дырэктара. Усе ўстаюць і спяваюць «Сто лят». Дырэктар адказвае тостам сваім вучням. Далей смех, песні і воплескі пераплятаюцца з новымі тостамі.

І зноў музыка, танцы і спеў. Настаўнік Мечыслаў Гаўрычэнка вядзе карагоды, арганізуе шматлікія гульні. Вось раздалі білеты. Ідзе катыльёнавы вальс. Танцуюць Тацяна з Анегіным, Ляўра з Філёнам, Марысенька з Сабескім, Наташа з Балконскім і шмат — шмат іншых пар, якія так добра знаёмы нам з літаратуры. Вось «Згадуй-Згадуля. Усім удзельнікам узнагароды.

Час, як цукар у вадзе, расплываецца сярод агульнай вясёласці. Даўно ўжо мінула поўнач. Дырэктар просіць усіх на чай, а потым зноў ігры, танцы, спеў...

Але вось гаспадар балю аб'яўляе апошні танец. Ужо чатыры гадзіны раніцы. Калі гэта прайшло?! Так было прыемна і трэба ўжо разыйсціся! Застаюцца ўжо толькі ўспаміны, гэтага балю немагчыма ніколі забыць!

Да пабачэння, сябры, за 100 дзён на «матуральным» балю! Жадаю Вам, пакуль што самых найлепшых ацэнак.

А калі будзеце ўспамінаць дзень 13 лютага 1960 года, у якім адбыўся Ваш баль, не забудзьце аб тых, хто, не шкадуючы сваёй працы, так багата і вясёла падрыхтаваў гэты баль — аб сваіх бацьках, настаўніках і дырэкцыі.

ВІКТАР РУДЧЫК

# Пашырым гаспадарчую дзейнасць „Бэтэскі"

(Працяг са стар. 1)

задавальняюць? Зразумела, што не.

Нядаўна прамыслова - гаспадарчае праўленне «Бэтэска» пастанавіла ў 1960 г. пашырыць сваю дзейнасць. У параўнанні з 1959 г. павялічыцца прадукцыя амаль у 3 разы. Будуць арганізаваны новыя прадпрыемствы. Ці гэты план рэальны? Думаю, што так.

Справа актывізацыі беларускага насельніцтва ў эканамічным развіцці нашай краіны — гэта вельмі важная справа. Маем дагэтуль яшчэ ў нашых вёсках многа не выкарыстанай рабочай сілы. Трэба яе выкарыстаць, арганізуючы хаця б невялікія прадпрыемствы вырабу будаўнічых матэрыялаў, як цэглы, бетона і г. д. Можна і трэба арганізаваць прадпрыемства па агародніцтву, жывёлагадоўлі, вытворчасці прадуктовых вырабаў. Арганізаваць пры дапамозе «Бэтэскі» рыначны скуп прадуктаў.

Думаю, немалую ролю ў нашым эканамічным развіцці вёскі маглі б адыграць вясковыя рамонтна - мантажныя брыгады па будове дамоў, дарог, меліярацыі пасбішч і лугоў.

Ужо гэтыя некалькі прыкладаў паказваюць, як многа мы яшчэ маем не выкарыстаных рэзерваў. Было б вельмі добра, каб нашыя актывісты і ўсе зацікаўленыя, разважылі гэтую справу кожны ў сваёй мясцовасці і дапамаглі прамыслова - гаспадарчаму праўленню «Бэтэска» ў выкананні пастаўленых перад ёю задач. Такім чынам, супольнай працай дапаможам нашай дзяржаве і нашаму грамадству ў ліквідацыі эканамічнай адсталасці паасобных раёнаў нашай краіны.



Прадукцыя «Бэтэскі».

М. БАРАВІК

# ШАНСЫ НА АГУЛЬНАЕ РАЗЗБРАЕННЕ

Толькі два тыдні аддзяляюць нас ад канферэнцыі дзесяці дзяржаў, прысвечанай раззбраенню, якая павінна распачацца 15 сакавіка ў Жэневе. У склад камісіі па раззбраенню ўвайшло 10 дзяржаў, па 5 з Усходу і Захаду. Маскоўскае пасяджэнне Дарадчага палітычнага Камітэта дзяржаў — членаў Варшаўскага пакта было важным этапам у падрыхтоўцы Усходу да гэтай канферэнцыі. Сацыялістычныя краіны, якія належаць да Варшаўскага пакта, ясна і выразна падтрымалі сваю супольную волю захаваць мір шляхам змяншэння і поўнага выцяснення ўзбраенняў з міжнароднага палітычнага жыцця.

Зараз мы з'яўляемся сведкамі шэрагу размоў ва ўлонні заходніх краін — членаў паўночна - атлантычнага пакта, якія ў выніку павінны прынесці супольныя пазіцыі Захаду адносна выстаўленых да гэтай пары прапаноў па раззбраенню. На жаль, апрача вялікага шуму, які падымае вакол заходняй канферэнцыі амерыканская і заходнееўрапейская прэса, нельга сказаць, каб аб'яўленыя да гэтага часу погляды мелі аптымістычныя элементы, якія давалі б надзею на хуткае пагадненне па пытанню аб раззбраенні.

Тыдзень назад амерыканскі дзяржаўны сакратар Гертэр выступіў з прамовай, якая лічыцца асновай пазіцыі Захада перад канферэнцыяй па раззбраенню. Апрача афіцыйнай дэкларацыі, што Злучаныя Штаты падтрымліваюць мір і ўсеагульнае раззбраенне, Гертэр не выступіў з якімі - небудзь новымі прапановамі, якія ўлічвалі бы Савецкі план усеагульнага і кантраляванага раззбраення, з якім выступіў прэм'ер Хрушчоў 18 верасня мінулага года на пленарнай сесіі ААН. Прапановы Гертэра зводзяцца да прыняцця прынцыпаў кантроля перад тым, як прыступіць да раззбраення. Гертэр не гаворыць таксама аб агульным і поўным раззбраенні, а аб замене нацыянальных армій якімісьці дакладней не акрэсленымі міжнароднымі паліцыйнымі сіламі.

Такая вузкая і абмежаваная праграма не з'яўляецца чым-небудзь новым, з'яўляецца зваротам да ранейшых, адкінутых ужо канцэпцый Захаду. Увядзенне якога-небудзь кантроля перад прыступленнем да раззбраення з'яўляецца не чым іншым, як толькі спробай закінуць разведку на чужыя тэрыторыі.

Ацэньваючы сапраўдны сэнс прамовы дзяржаўнага сакратара Гертэра, лёгка можна прыйсці да вываду, што Злучаныя Штаты яшчэ не падрыхтаваны да сур'ёзных размоў аб справах раззбраення, у кожным выпадку імкнуцца выйграць час і іграюць на адцяжку.

Гэты факт выклікае сур'ёзны непакой, таму што тэрмін канферэнцыі набліжаецца, а Заходнееўрапейскія дзяржавы прызначаюць з сваіх бюджэтаў усё большыя выдаткі на ўзбраенне. Трэба ўлічыць, што гэта адбываецца ў той момант, калі Савецкі Саюз паменшыў свае ўзброеныя сілы, калі Польшча дэкларуе гатоўнасць абмежаваць узбраенні пры ўмове, калі такія ж меры пры ме Заходняя Германія.

На два тыдні перад пачаткам Жэнеўскай канферэнцыі, прысвечанай пытанням раззбраення, заходнія дзяржавы не маюць, праўду кажучы, ніякіх станоўчых прапаноў. Цяжка таму прадбачыць, ці Жэнеўская канферэнцыя 10-ці дзяржаў зможа падняць адразу канкрэтную і дзейсную дыскусію. Выказваем гэтую апаску таму, што, як і ўсім грамадзянам сацыялістычных краін, нам вельмі блізка ідэя мірнага суіснавання, ідэя ўсеагульнага раззбраення.

У. ЛАЗІНСКІ




Спусцілася ноч. «Пікап» прабіраўся па лясной дарозе на захад, у напрамку перадавой, да ўчастка, дзе я меў перайсці лінію фронта.

— Ці не заблудзіліся мы? — прагаварыў Сымон Крываручанка. — Неяк доўга едзем...

Хваляванне Сымона перадалося і мне, але я скрыў яго.

—Не думаю, — адказаў я.

Апаскі Крываручанкі падцвердзіліся. Мы збіліся з дарогі, заначавалі ў лесе і толькі ў дзве гадзіны па поўдні трапілі ў размяшчэнне палка.

Камандзір палка сустрэў нас, як старых знаёмых. Аб маёй перакідцы ён быў папярэджаны яшчэ ўчора са штаба арміі.

— Я ўсё абмеркаваў, — сказаў ён, калі мы прыселі. — Бачыце, — ён выняў карту, — немцы ўжо пяць раз па раніцам намагаліся выраўняць вось гэту дугу і ўвайсці ў вёску. Мы іх не пусцілі, а цяпер пусцім. Завітаюць, а потым шкадаваць будуць. А вы ў вёсцы схаваецеся. І нічога дзіўнага ў гэтым няма: пасля адыходу нашых войск застаўся цывільны чалавек. А вам, — ён звярнуўся да Крываручанкі — трэба будзе застацца тут.

Я і Сымон паглядзелі адзін другому ў вочы. Дагэтуль мы заўсёды трымаліся разам — і на сваім баку і ў тыле ворага, а цяпер перад намі стаіць разлука. Я адзін павінен прабрацца ў разведвальны пункт Губарта, які палкоўнік Рашотаў назваў асіным гняздом, а Сымон з радыстам будуць выкінуты пасля з самалёта і павінны замацавацца недзе паблізу мяне.



Камандзір палка пазнаёміў мяне з камандзірам батальёна, капітанам, і мы накіраваліся ў лес.

Праз паўкіламетра лес расступіўся і адкрылася вёсачка ў адну вуліцу. З аднаго боку цягнуліся хаты, з другога — склепы. Жыхароў даўно ўжо тут не было, і вёска апусцілася.

— Тут і аблюбуйце сабе месцайка. Лепш за ўсё склеп. Больш надзейна... А хто цяпер жыве ў маёй старой зямлянцы? — звярнуўся камандзір палка да капітана.

— Старшына, цырульнік і два сяржанты.

— Вось там мы і паселім госця.

Мінавалі вёску і, зноў углыбіўшыся ў лес, затрымаліся каля зямлянкі, крытай у два накаты круглякамі. Увайшлі ў сярэдзіну. Тут старшына лічыў абмундзіраванне, перакладваючы яго з адной горбы ў другую. Пры нашым з'яўленні ён выцягнуўся і прадставіўся камандзіру палка па ўставу. Потым, жмучы мне руку, адрэкамендаваўся:

— Підкова.

Зямлянка была глыбокая, прасторная, з шырокімі нарамі ўздоўж сцен. Правы бок аддзяляўся дзвюма сшытымі прасцінамі. Я заглянуў туды: чыста, на сцяне некалькі адкрытак, люстэрка. Тут, відавочна, размяшчаўся цырульнік.

— Кватаранта вам прывёў, — сказаў старшыне камандзір палка. — Прашу любіць і мілаваць.

Старшына з цікавасцю паглядзеў на мяне, чалавека ў цывільнай вопратцы.

—Украінец? — спытаў я яго.

— Эге ж.

(Працяг на стар. 4—5)





 

 

САВА

# Апошняя экскурсія

Паедзеш пасля працы на экскурсію? — запрапанаваў Андрэй Мечыславе, з якой ён разам працаваў на фабрыцы ў Дайлідах.

— Тваім Цітроэнам?

— Маім.

— Добра. — І Маню вазьму з сабой.

Маня была найлепшай сяброўкай Мечыславы, з якой яна не хацела расставацца.

Калі гудок абвясціў канец працы, Мечыслава з Маняй хутка паспяшылі дамоў, каб прыгатавацца да экскурсіі.

Незадоўга пад'ехаў на сваім аўтамабілі Андрэй.

правоў на кіраванне аўтамабілем не маеш. Ну, сядай за руль, папіхаючы за плячо Андрэя, сказаў Вальдэк.

Андрэй заняў месца пры рулі. Ён меў добра ў чубе і яму ўсё было абыякавым, але аўтамашынай кіраваў ён даволі спрытна.

Незадоўга паказаліся агні Супраслі.

На рынку ў Супраслі стаяў грузавік, якім Вальдэк прыехаў сюды з іншымі таварышамі. Ён парашыў перасесці на грузавік.

— Ну, чаго там, сядзі, тут жа выгадней, чымсь трэсціся ў грузавіку, — адгаварваў яго Андрэй.

Праехаўшы вуліцы Варшаўскую і Сянкевіча, аўтамабіль звярнуў на роўнае супрасльскае шасэ і плаўна каціўся з горкі на горку.

Вось і Супрасль. Андрэй затрымаўся на мосце. Непадалёк ад моста на беразе, нехта вудзіў рыбу.

— Вальдэк! сюды! — крыкнуў Андрэй, пазнаўшы ў ім свайго сябру, — паедзем на экскурсію.

Вальдэк аглянуўся і паволі пачаў збіраць свае прылады. Яму не хацелася адказаць сябру.

Учацвярох яны даехалі да лесу і затрымаліся на прыгожай паляне. Была сярэдзіна верасня. У лесе ўжо пахла восенню, хаця дрэвы сталі яшчэ зялёнымі.

— Пашукаем грыбоў, — запрапанаваў Вальдэк.

— Паспеем з грыбамі, трэба спачатку пакрапіцца.

Ён, паклаўшы газету на траву, разлажыў хлеб, вяндліну і паставіў пляшку гарэлкі.

З прымаўкамі і жартамі пайшла кругом шклянка. Вальдку не хацелася піць. Калі прыйшла яго чарга, ён памачыўшы вусны ў гарэлцы, карыстаючы неўвагай таварышоў, выліў яе на траву.

Вецер шапацеў у дрэвах. З верхавін ёлак даходзіў шум, падобны да гукаў сумнай далёкай музыкі. Але экскурсанты чулі толькі той шум, які выклікае ў галаве гарэлка.

Водка развязвала языкі. Усе галасна жартавалі, смяяліся, спявалі, хоць гэта і не выходзіла складна.

Толькі Вальдка немагчыма было разварушыць. Ён гаварыў мала і не меў ахвоты да спеву.

Цёмна было, калі яны сядалі ў аўтамабіль.

— Дай я павяду аўтамашыну, — звярнулася да Андрэя Мечыслава.

— Вядзі, — абыякава адказвае Андрэй.

— Ды кіньце вы гэтыя глупствы, — запратэставаў Вальдэк, — бяды хочаце нажыць!

— Я ж на курс хадзіла і ўмею кіраваць, — пакрыўджана адказала Мечыслава.

— Такое там тваё кіраванне, — настойваў на сваім Вальдэк, — дый

— Мушу яшчэ спаткацца з таварышамі. Справу маю, — тлумачыўся Вальдэк. Ён не мог дапасавацца да вясёлага настрою іншых, і таму яму хацелася чым хутчэй з імі развітацца.

— Пайшоў ужо гэты мрук, — сказала Мечыслава, — а цяпер я павяду машыну.

Андрэй, глянуўшы на яе, нерашуча маўчаў.

— Што, мо' і ты баішся, як той мрук, — іранічна адазвалася Мечыслава.

Не, Андрэй не баяўся. Ён быў у такім настроі, што ў самае пекла пайшоў бы.

Тымчасам грузавік рушыў, а Вальдэк сядзеў ззаду ў кузаве і глядзеў на істужкі святла, якія кідалі рэфлектары аўтамабіля яго таварыша. Ён быў рады, што адчапіўся ад іх. Адначасна адчуваў як бы дакоры сумлення.

(Працяг на стар. 5)

# КІЛІНЕ ІГНАЦЮК 108 год

Не давялося мне даведацца, ці ў Гайнаўскім павеце ёсць яшчэ старэйшы чалавек за Кіліну Ігнацюк з вёскі Скупава, якая пражыла ўжо 108 год.

У хату Казбяровічаў (Кіліна Ігнацюк жыве ў зяця) я ўваходзіў з думкай, што бабулька не зможа нічога мне расказаць, бо, вядома, гады робяць сваё. Ды яшчэ якія, — з трох лічбаў! Але ўнучка Кіліны, якая мае ўжо 35 год, папярэдзіла мяне, што бабулька яшчэ ўсё можа расказаць.

— Нядаўна на хрысцінах, — гаворыць унучка, — бабулька спявала і прытупвала, жадаючы дачакаць яшчэ наступнага праўнучка.

Я ўцешыўся. І сапраўды, бабулька ўсё добра памятае і ўмее расказваць.

Кіліна Ігнацюк не ведае, калі яна нарадзілася, «бо, — гаворыць, — калісь гэта непатрэбна было». Пражытыя гады бабулька лічыць так: у колькі год выйшла замуж, колькі год пражыла з мужам і колькі год мінула, як памёр муж. Усе гады складзе разам і выходзіць 108.

А вось найцікавейшае, што расказала бабулька. Яе дзед працаваў у меляшкоўскага пана. Аднойчы пан вяртаўся дамоў падхмелены і згубіў шкатулку з золатам. Яе знайшоў прыгонны селянін Баравы, дзед Кіліны, і не аддаў пану. Праз год ён паставіў сабе добрую хату, клуню і купіў каня. Двор прыйшоў да вываду, што гэта Баравы знайшоў шкатулку з золатам. Напалоханы Баравы пакінуў сваю гаспадарку і з жонкай і 5-цю дзецьмі ноччу ўцёк за некалькі кіламетраў у невялікі лес, дзе пабудаваў сабе зямлянку, прыпас крыху прадуктаў харчавання і неяк перазімаваў. Летам не было бяды. Меў сякеру і пілку, вырубіў кавалак лесу, засеяў і так жыў... Меляшкоўскі двор не ведаў, куды селянін падзеўся, а Баравы там нічога не баяўся. Толькі са звярамі было цяжка змагацца, іх тады яшчэ было шмат.

Але праз год 10 Баравы даведаўся пра канчыну свайго пана. Да Меляшкоў аднак жа не вярнуўся... Ад яго прозвішча ўзяла назву вёсачка Баравое, каля Баб'яй гары, у якой і нарадзілася Кіліна Ігнацюк.

Цяжка было жыццё Кіліны. Аб ім і расказваць цяжка. Хопіць сказаць, што, калі бабулька ўспамінае далёкае мінулае, не можа ўстрымацца ад слёз. Яе здзіўляе, напрыклад, што цяпер усе дзеці ходзяць у школу, маюць кніжкі, належна апранутыя, не посцяць, ездзяць на веласіпедах. Дарэчы, Кіліне на працягу свайго 108-мігадовага жыцця не давялося ехаць цягніком ці якойсьці машынай. «Ужо хіба і не прыдзецца», — з жалем гаворыць бабулька. Яна гаворыць, што ў Скупаве людзі жывуць лепш, чым калісьці жыў меляшкоўскі пан. «Калісь, — гаворыць, — людзі пасцілі і пасцілі. Нават двухгадоваму дзіцяці ў пост не давалі малака. Гаварылася, што грэх і дзіця мусіла верыць. А цяпер, нават не ўсе старэйшыя ведаюць, калі пост... Цяпер не ходзяць пешшу. Усе вялікімі панамі парабіліся...» Сэрца баліць, калі Кіліна расказвае пра ўмовы жыцця часоў яе дзяцінства і юнацтва. Напрыклад, наступны эпізод вельмі многа гаворыць. Дзядзька Кіліны ў маладыя гады памёр, не вытрымаў барацьбы за залеглыя падаткі. Бацька Кіліны, убачыўшы гэта (бо ён таксама меў залежнасць з падаткамі) пачаў старацца грошай. Але адкуль іх узяць? А трэба ж выратавацца ад смерці! Ратунак адзін. Меў дзве капы жыта, змалаціў яго, за два разы разам з жонкай перанёс пешшу ў Свіслач, там прадаў і такім чынам «сабраў» грошы на падатак. І сапраўды, валасы стаюць дыбам не толькі ад таго, што сям'я засталася без хлеба, але і ад таго, што мы сёння можам яшчэ перажыць з тых часоў. А менавіта цяпер не з жытам на плячах, а з партфелем у руцэ, цяжка было б чалавеку прайсці пешшу з Баравога ў Свіслач! Так, не варта зайздросціць сёння прадзедаўскай долі. Старэнькай Кіліне можна пазайздросціць толькі ліку пражытых гадоў, а не яе мінуламу.

У канцы гутаркі я папрасіў бабульку, каб сказала, колькі мае ўнукаў і праўнукаў. Цяжка было ёй падлічыць. Яна ж мае толькі... 19 унукаў і 29 праўнукаў.

М. КУРАШ

# Пад уладай Браніцкіх

Многа гаворыцца і пішацца аб Браніцкіх як аб сапраўдных заснавальніках і будаўніках Беластоку. У сапраўднасці, нягледзячы на тое, што многа фактараў садзейнічалі таму, каб Беласток з вёскі, якой быў яшчэ і тады, калі Заблудаў, Супрасль або Сураж былі ўжо даўно гарадамі, пераўтварыўся ў горад, ды яшчэ ў дадатак стаў сталіцай ваяводства, аднак рашаючым момантам быў факт выбрання гэтай мясцовасці для галоўнай рэзідэнцыі мужнай і энергічнай сям'ей Браніцкіх з гербам Грыфа.

Аб адным толькі наогул мала гаворыцца: як тыя Браніцкія ўладавалі, як жылі людзі ў іх маёнтках, ці ўсеўладныя магнаты і іх прыслужнікі думалі таксама аб дабрабыце ўсіх сялян і мяшчан, ці таксама трактавалі іх выключна, як танную рабочую сілу, якой можна бяскарна карыстацца. Тым, уласна, справам, выясняючым пытанне дабрабыту Браніцкіх з адваротнага боку, і іх двара хачу прысвяціць некалькі артыкулаў. Матэрыял для іх узяты з захаваўшыхся матэрыялаў 18 стагоддзя, у асноўным Міхала Стажэнскага і Марціна Матушэвіча, а таксама судовых дакументаў Рэфэрэнднага Суда ў Варшаве.

Пачну ад працэса, які ў 1720 годзе ўзбудзілі жыхары некалькіх вёсак Бельшчыны супраць Яна Клеменса Браніцкага, тады яшчэ не гетмана, а толькі бранскага і бельскага старасты. Жыхары вёсак Старое Беразова, Асоўка, Шастакова, Бура, Мора, Махнатае, Хітрая, Сток, Курашава, Вітава, Барок, Ягруд, Карытыска, Старое Корна абвінавацілі Браніцкага, а таксама яго ўраднікаў ляснічага Францішка Смагажэўскага і эканома Паўла Крушэўскага ў тым, што апошнія прымушалі іх выконваць працы, не прадбачаныя нават суровым наказам каралеўскай камісіі, вымушалі плаціць штораз большыя падаткі і нішчылі тыя прывілеі, якія мелі сяляне па каралеўскім наказам. Мала таго, калі сяляне адмовіліся выконваць тыя надмерна цяжкія патрабаванні, ён прыказвае іх «хапаць і па 300 палак даваць, аж аднаго з іх, Івана Бурака, сваім зверствам на той свет адправіў». А калі і таго было мала, тады прыехаў Браніцкі на чале свайго асабістага войска і пры яго дапамозе дабіўся ад сялян пакорнасці.

Браніцкі, відавочна, не чакаў пасіўна на прыгавор суда, а сам сваёй дарогай абвінаваціў сялян. У чым? У тым, што яны не хочуць выконваць патрабаванняў яго стаўленікаў, што не выходзяць на паншчыну, што адмаўляюцца плаціць падаткі, што бунтуюць. Значыць, «павярнуў ката хвастом уперад», як гаворыць прымаўка.

Доўга цягнуўся працэс, пераходзячы з адной установы ў другую, аж урэшце Рэфэрэндны Суд (таксама пасля даволі вялікага тэрміну) вынес прыгавор. Замест чаканай справядлівасці атрымалі сяляне... «напамінальны ліст», які сцвярджаў, што не Браніцкі, Смагажэўскі і Крушэўскі віноўны, а самі сяляне. Сваёй ленасцю, дзёрзкасцю, бунтаўніцтвам і непаслухмянствам пры аплаце падаткаў зрабілі яны так, што «паважаны» Ян Клеменс Браніцкі панёс матэрыяльныя страты, і яны павінны тыя страты выплаціць. І так, дачакаліся сяляне «справядлівасці». І не магло быць інакш, бо суд выносіў прысуд не ў інтарэсах падданых «працавітых», як нібы для іроніі называлі сялян, а ў інтарэсах пануючага класа «добра народжаных», а ў іх інтарэсах было менавіта падаўленне ўсялякага роду бунтаў, хаця б выплывалі яны з самых справядлівых пачынанняў.

Зрэшты, гэта не быў асобны выпадак, ані ва ўсёй Польшчы ў той час, ані раней ці пазней на Беласточчыне. Падаўленне ўсялякага роду з'яў нездаволення было праблемай жыцця і смерці тых, якія жылі з працы другіх.

Пагаворым яшчэ аб гэтым, зрэшты, у наступным артыкуле.

Р. КРАСЬКО



 

Месяцы люты, сакавік, і часткова красавік — гэта час інтэнсіўнай высечкі лесу. Гаспадары без абгрунтаванай патрэбы сякуць штогод столькі лесу, на колькі ўдаецца атрымаць ім дазвол ад мясцовых ГРН-аў. У заяве на высечку лесу гаспадары часта падаюць неіснуючыя патрэбы, а мясцовыя ўлады не заўсёды маюць магчымасць дакладна разгледзець усе заявы. Ва ўсіх ГРН-ах гэткіх спраў налічваецца сотнямі, а часу на разгледжанне мала. Вось, напрыклад, у ГРН Галады (Бельскі павет) гаспадары ўнеслі заяву на высечку 800 штук соснаў. Калі пералічыць гэта на паверхню, выпадае каля паўтара гектара лесу, Высячы за адзін год паўтара гектара лесу — гэта зусім ненармальная гаспадарка, гэта проста звычайнае знішчэнне лесу!

# ЛЕС — ТВОЙ СЯБРА

Праўда, у вёсках, падлягаючых адміністрацыі ГРН Галады ў мінулым годзе сяляне пасадзілі 2 гектары маладога лесу, але іх клапатлівасць аб ім на гэтым і скончылася. Летам у пасадку пусцілі жывёлу, і яна хутка справілася з двума гектарамі маладняку. На жаль, вінаватых ніхто не шукаў.

А вось іншы прыклад: вёска Вулька Нурэцкая (Сямяціцкі павет) мела ў супольным уладанні яшчэ ад часу паншчыны каля дзесяці гектараў лесу. Зараз гэтага лесу ўжо няма. Жыхары вёскі высеклі яго за некалькі апошніх гадоў. Засталіся толькі дзве лысыя гары, якія штогод усё больш пераўтвараюцца ў пясчаныя халмы. Вецер нясе ад іх цемру пяску, засыпае сумежныя пасбішчы і сенажаці.

Гэткіх прыкладаў напэўна можна было б паказаць больш. Гаспадары нават тады, як атрымаюць дазвол ад сваёй ГРН, высякаюць больш лесу, чым указана ў дазволе і менавіта гэтым дазволам прыкрываюць сваю чорную працу, а потым непатрэбны сабе матэрыял прадаюць іншым сялянам, у якіх няма свайго лесу. Даход з такіх трансакцый зусім нядрэнны, тым больш, што таму, хто прадае лес, акрамя высечкі, нічога ён больш не каштуе.

Лес — гэта не толькі крыніца прыгажосці. Ён, у першую чаргу, з'яўляецца сябрам чалавека ў яго змаганні з прыродай, лес — адна з важнейшых галін народнага багацця. Хаця б і толькі дзеля гэтага ім трэба карыстацца сапраўды па-гаспадарску — ашчадна і разумна. Пакінуць гэтую справу на самацёк нельга.

ВУЭР

З ДОСЛЕДАЎ ВЯСКОВАГА МІЧУРЫНЦА

# БРАЗІЛІЙСКІЯ РАЗЫНКІ РАСТУЦЬ У КРУШЫНЯНАХ

Невыпадкова дзядзьку Аляксандра Макаля з Крушынян, Сакольскага павета, называюць вясковым мічурынцам. Ён ужо некалькі гадоў паспяхова праводзіць доследы з тыпова пэўднёвымі раслінамі. Вынікі, якія атрымоўвае дзядзька Макаль у сваёй высокароднай працы, проста сенсацыйныя. У мінулым годзе ён выгадаваў сакавітыя казахстанскія кавуны, жоўтыя салодкія кубанскія і балгарскія дыні, бразілійскі вінаград - разынкі, іспанскія духмяныя цытрыны, пахучы турэцкі перац і шмат другіх.

Гэтыя ўсе паўднёвыя расліны, дзякуючы ўпартай працы вясковага мічурынца, вельмі добра ў нас акліматызаваліся і даюць нядрэнны ўраджай. Аляксандр Макаль мае ўжо шмат насення гэтых раслін і вельмі ахвотна прадаў бы яго новым аматарам паўднёвых смакавітых фруктаў. Адначасова дзядзька Макаль ахвотна дасць аматарам неабходныя парады, як трэба вырошчваць гэтыя расліны. Для ўсіх тых, якія хочуць у сябе вырошчваць паўднёвыя расліны, падаем дакладны адрас Аляксандра Макаля:

вёска і пошта Крушыняны,
павет Саколка,
ваяводства Беласток.

(вб)

# КОРАТКА АБ ГУРАНАХ

У Гуранах (Сакольскі павет) вясковая крама прадае кожны месяц больш як на 30 000 зл. тавару. Заўсёды большая палова гэтай сумы прыпадае на гарэлку. Як сцвярджае Граня Чэсновіч, кожны месяц гаспадары выдаюць на гарэлку 16—17 тыс. зл. А ў тых месяцах, калі прыпадаюць святы-коляды і вялікдзеня — выдаткі на гарэлку значна ўзрастаюць.

*

На пошту ў Гуранах прыходзіць 339 часопісаў. Па падліку павятовай пошты ў Саколцы, на 100 чалавек прыпадае 26 часопісаў, значыць, амаль кожная сям'я з'яўляецца падпісчыкам якога - небудзь часопіса. Найбольш чытаюць «Грамаду Рольнік Польскі», аж 90 падпісчыкаў. Другое месца падзялілі «Ніва» з «Газетай Беластоцкай» — па 33 падпісчыкі, а трэцяе месца займае «Хлопска дрога» — 18 падпісчыкаў.

*

У Гуранах шмат здольных людзей. Вось, напрыклад, Аляксандр Субета — «майстар на ўсе рукі». Ён і кажух зробіць, набедрыкі і вобруць пашые, і валасы падстрыжа не горш прафесіянальнага цырульніка.

*

У Гуранскай грамадзе даволі кепска праходзіць уплата на фонд будовы школ 1000-годдзя. За мінулы год ніводная вёска не разлічылася ў 100 прац. Трохі лепш выглядае справа з уплатай на фонд будовы школ у вёсцы Шацілы, якая разлічылася за мінулы год на 90 працэнтаў. У гэтым годзе будзе аддана для карыстання новая школа ў Гуранах. Аднак тыя вёскі, з якіх дзеці будуць вучыцца ў гэтай школе, таксама яшчэ далёка не ўсе ўнеслі грошы на фонд будовы школ.

М. Х.

# АПОШНЯЯ ЭКСКУРСІЯ

(Працяг са стар. 3)

— Трэба было іх паўстрымаць ад водкі, — вёў ён сам з сабой спрэчку. Але што я мог зрабіць! Яны ж не дзеці. Усё роўна не паслухалі б. Толькі абсмяялі б. Не трэба было іх пакідаць. А што б я памог? Сам жа кіраваць аўтамашынай не ўмею. А мо' б і спатрэбіўся. Ад дурасці якой паўстрымаў бы.

У ім будзіўся непакой. Палосы святла хісталіся то ў адзін, то ў другі бок. Відаць было, што аўтамабіль ідзе няроўна. Грузавік уязджаў у вёску Агароднікі.

— Мо' лепш затрымаць грузавік!

Раптам у месцы, адкуль выходзілі палосы святла вырас слуп іскраў. Палосы святла зніклі.

Вальдэк раптоўна застукаў у кабіну шафёра і закрычаў:

— Затрымаць, затрымаць!

Запішчэлі тармазы; з шафёркі паказалася галава шафёра:

— Што там такое?

— Хутка заварачвай, Андрэй здаецца машыну разбіў.

Шафёр завярнуў грузавік і незадоўга яны былі каля дрэва, пры якім стаяў аўтамабіль Андрэя. Не, гэта не быў ужо аўтамабіль, гэта была куча жалеза.

З правага боку на траве ляжаў Андрэй, з левага — Маня. Яны не падавалі прызнакаў жыцця.

Пад пабітай будкай шафёркі ляжала Мечыслава, нагой датыкаючыся тормаза. Аглушаную, ледзь жывую, яе выцягнулі з шафёркі. На грузавіку яе даставілі ў бальніцу.

Цераз месяц, яна слабая і з шумам у галаве вярталася дамоў. Чым бліжэй яна была ад дому, тым цяжэй было ёй на сэрцы. Яна ўвесь час азіралася, баючыся, каб не сустрэць каго са знаёмых, а адначасова адчувала сябе такой адзінокай і пакінутай, быццам яна знаходзілася на пазбаўленай жыцця планеце.

На магільніку, сярод золата лісцяў, шумеў вецер, а над магілай Андрэя і Мані плакала восень.

САВА

Наступіла цішыня. Мае думкі зноў закружыліся наўкола аднаго і таго самага пытання: калі і як усё адбудзецца?

Хваляванне, якое я перажываў на працягу апошніх дзён і ночаў, змарыла мяне. Часам я ўпадаў у трывожнае забыццё, потым раптам уздрыгваў, углядаўся ў акружаючыя мяне прадметы, услухваўся ў цішыню. Апрача далёкага квакання жаб, ноч не прыносіла ніякіх гукаў. Я ўрэшце глыбока заснуў. Прачнуўся раптоўна. Недзе зусім блізка чуліся разрывы. У бок мяне таўкнуў старшына.

— Уставайце скорійші! Як вы спіце! З піўгодзіны бой ідэ.

Я схапіўся. Праз адчыненыя дзверы зямлянкі заглядала пасвятлеўшае перад світаннем неба. Старшына адной рукою, таропячыся, нешта пхаў у рэчавы мяшок, а другою свяціў ліхтарыкам.

— Як бы чого не забуты, — мармытаў ён, асвятляючы ліхтарыкам куты зямлянкі. — Здается, усэ. Побіглы... Зараз сэло отдаемо.

Ён выскачыў, я — следам за ім.

Пабеглі лесам. Немцы вялі мінамётны агонь па месцы размяшчэння батальёна.

— Сюды, за мною, а то як раз під вагонь угодымо. — І старшына крута ўзяў управа.

Быстра перасеклі адкрытую паляну і выскачылі на акраіну вёскі. На другім канцы яе стракаталі аўтаматы, раздаваліся крыкі. Ішоў бой...

Каля аднаго са склепаў старшына спыніўся, уздыхнуў ад быстрага бегу, змахнуў рукавом пот з ілба і падаў мне сваю вялікую, цёплую руку:

30

— Бувайты здоровы! Божаю успіху... Лізтэ у погрэб. Воны зараз тут будуть. Я побіг...

Я застаўся адзін. Побач шлёпнула міна. Я прысеў, а потым спусціўся ў склеп.

Зверху чуліся крыкі, стрэлы, тупат ног. Праз дзверы ліло бледнае, ранішняе святло.

Сэрца вяло сябе яўна неразважна. Спачатку яму, відавочна, было цеснавата ў грудзях, яно шалёна калацілася і гатова было выскачыць, а потым раптам замерла і стала непрыкметным, я нават не адчуваў яго штуршкоў.

Міны далей рваліся часта, і ў вушах у мяне звінела. Раптам страляніна спынілася, стала невыносна ціха.

У дзвярах з'явіліся два аўтаматчыкі і, прыкмеціўшы мяне, наставілі ствалы.

— Хандэ хох! — крыкнуў адзін.

Я схапіўся з месца.

— Рукам гору! — загадаў другі.

Я падняў рукі і, у сваю чаргу, крыкнуў:

— Ахтунг! Панцэр!

Аўтаматчыкі здзіўлена пераглянуліся.

— Дэр іст воль феррюкт. — Ён зглузду з'ехаў, — сказаў высокі гітлеравец меншаму і зрабіў кругападобны рух рукою ля свайго ілба.

— Ахтунг! Панцэр! — крыкнуў я другі раз. — Мне патрэбны гаўптман Губарт!

Гітлераўцы зноў пераглянуліся.

— Раус! — Выхадзі! — загадаў высокі і, бачачы, што я не разумею яго каманды, паказаў рукамі, прапануючы выйсці наверх. — Шнэль, раус! Хутка, выхадзі!

31

Я падняўся наверх. Ужо тут да мяне вярнулася поўнае самавалоданне. Тое, чаго я, здавалася, найбольш апасаўся — сам мамент сустрэчы з ворагамі, — не выклікала ў мяне асаблівага хваляваня. Наадварот, я адчуў упэўненасць. Сэрца ўвайшло ў норму. «Пачалося!» падумаў я і пачаў назіраць за аўтаматчыкамі.

— Лейбесвізітаціон! Абшукай яго! — скамандваў усё той жа, відавочна, старшы.

Другі вывярнуў мне кішэні і вытрас з іх пудэлак папяросаў, запалкі, гадзіннік, сцызорык, люстэрка, хустачку, дробныя грошы. Перадаў старшаму. Той разлажыў усё па сваім кішэням і, паказаўшы рукою наперад, крыкнуў:

— Марш!

Мяне завялі ў лес у тыл гітлераўскай часці і ўпіхнулі ў нейкую зямлянку. Тут на стале безупынна папісквалі палявыя тэлефоны. Немец у чыне лейтэнанта адказваў то ў адну, то ў другую трубку.

Мне паказалі на лаўку. Я сеў.

Праз нейкіх дваццаць хвілін з'явіліся два афіцэры — капітан і абер-лейтэнант. Апошні свабодна валодаў рускай мовай і прыступіў да дапросу. Ён упіўся ў мяне сваімі празрыстымі вачыма, але, пачуўшы, што я іду на сустрэчу з капітанам Губартам, і даведаўшыся пароль, адразу перамяніўся.

Обер-лейтэнант з капітанам выйшлі. На перадавой зноў пачуліся стрэлы і крыкі. Мне прыйшлі на думку словы камандзіра палка: «Завітаюць, потым шкадаваць будуць».

Працяг будзе.

32

 




**Ісландыя мае 140 вулканаў. На здымку вулкан Гекла, які выбухнуў у 23-ці раз 29 сакавіка 1947 года. Тады на 27 км ад кратару паплыла лава. Слуп дыму дасягнуў вышыню 8000 м.**

Ісландыя і акружаючыя яе астравы маюць 103.000 квадратных кіламетраў. Гэта значыць, абшар Ісландыі ў 3 разы меншы Польшчы. Жыве ў Ісландыі толькі 165.000 чалавек.

Ісландыя — бедная краіна, якая, практычна беручы, не мае ані мінеральных багаццяў, ані прамысловасці, ані развітай сельскай гаспадаркі, аднак матэрыяльны ўзровень насельніцтва тут даволі высокі.

У Ісландыі многа вулканаў, гейзераў і гарачых крыніц, якая з'яўляецца багаццем краіны. Вулканічная лава ў спалучэнні з цэментам ужываецца для вытворчасці шлакабетонаў, з якіх будуюцца дамы; вада з гейзераў абагравае памяшканні, цяпліцы і напаўняе купальныя басейны. Ісландцы займаюць першае месца ў Еўропе па даўгавечнасці людзей.

Ісландыя ніколі не мела і не мае генералаў, адміралаў і войска і не вяла войнаў. У цэлай краіне ёсць у сучасны момант толькі 50 паліцыянтаў, узброеных палкамі. Аднак Ісландыя належыць да вайсковага пакту НАТО і мае на сваёй тэрыторыі вайсковую базу ЗША.

У Ісландыі няма зусім чыгункі, але камунікацыя добрая. Многа ёсць аўтобусных ліній, аўтобусаў, аўтамашын і самалётаў.

Большасць насельніцтва займаецца рыбалоўствам, рыбнай прамысловасцю і гандлем рыбай.

Галоўным таварам ісландскага экспарту з'яўляецца рыба. Авечкагадоўля — гэта другое пасля рыбы багацце краіны.

Ісландыя — рэспубліка. Сталіца — Рэйк'явік. У горадзе ёсць вуліца Грынгебройт. Па адным яе баку жывуць толькі рабочыя, па другой — толькі мільянеры.




Ужо незадоўга будзе год, як я дружу з Віктарам. Я яго шчыра кахаю. Часам ходзім з ім на танцы, бываем на вечарынках. І вось пасля кожнай забавы ці вечарыны ў нас паяўляюцца непаразуменні. Віктар вельмі раўнівы (зайздросны). Калі пагутару з кім - небудзь ці патанцую, дык тады сапраўдная бяда. Віктар цвердзіць, што я павінна гутарыць толькі з ім, танцаваць толькі з ім, сядзець толькі з ім. Баюся, што калі мы пажэнімся, з-за яго рэўнасці і ў нас могуць быць сямейныя непаразуменні.

Што рабіць? Парадзь, Сэрцайка.

**ЛЮБА В.**
**Гайнаўка**

**Рэўнасць бывае тады, калі няма поўнага давер'я да каханай асобы. Віктар відаць баіцца, што ты можаш зацікавіцца іншым хлопцам. Мая парада: калі шчыра Віцю кахаеш, толькі ён табе дарагі, павінна надпарадкавацца яго волі, павінен ён мець выключнае права быць і гаварыць з табой. Ісці яму насупраць — няма ніякага сэнсу і нічога пакуль што не дасць. Мужчыны шчаслівы, калі бачаць і адчуваюць, што жанчына абажае толькі іх. З часам яны затрачваюць такую эгаістычную рысу свайго характару.**

**Сэрцайка**

# НОВЫЯ САМАХОДЫ

Самаходзік - ліліпут. Яго можна падняць на ўласных плячах. Канструктарам з'яўляецца Нельсэн з Даніі.

Польскі трохкалёснік «САМ», сканструяваны ў Познані. Можа ён развіваць хуткасць да 170 км/гадз. Пры вялікай хуткасці яго пярэдняе кола паднімаецца ўгору і самаходзік кіруецца як самалёт — пры дапамозе руля.

Такія самаходы можна ўбачыць на дарогах Азіі. Маскі іх выкананы на кшталт галоў гіпапатама, слана ці іншых звяроў.

Мадэль самахода эпохі спадарожнікаў, ракет і «лётаючых талерак» прапанаваны французскай фабрыкай Сімка.

«Алігатар» — новая нямецкая машына. Яна патрапіць не толькі плаваць, але сходзіць у ваду па крутым беразе.

Гэты самаход мае быць найбольш надзейным пры розных выпадках на дарогах. Сканструяваны ў ЗША.





## Лётчык важыць 1400 кілаграмаў

Ці зможа чалавек вытрымаць велізарнае павелічэнне хуткасці міжпланетнага карабля? Гэтае пытанне хвалюе цяпер канструктараў і ўрачоў.

Нядаўна ў лабараторыі каля Філадэльфіі праводзіўся такі вопыт.

У металічным шары прымацаваным на цэнтрыфузе, знаходзіліся два чалавекі. Пры кружэнні цэнтрыфугі ў сярэдзіне шара стварaліся ўмовы, падобныя да тых, якія існуюць у хутка ляцячай ракеце.

Праз 10 секунд людзі, якія былі ў шары, у выніку вялікай хуткасці, важылі ў 20 разоў больш, чым нармальна.

# З АДНАГО ДРЭВА ЦЭЛЫ ЛЕС



**Баньян (адно дрэва)**

У Індыі і на Цэйлоне расце цікавае дрэва — баньян (не трэба блытаць з бананам), якое адносіцца да вялікага роду каўчуканосаў. У маладым узросце баньян — тонкае і гібкае дрэўца. Аднак, з гадамі, гэтае дрэўца разрастаецца, дае шматлікія голлі з паветранымі карэннямі. Такія паветраныя карэнні ў сваю чаргу замацоўваюцца ў глебе, даюць новыя парасткі, тыя — новыя галінкі і зноў паветраныя карэнні. Такім чынам, з аднаго дрэва разрастаецца цэлы лес, які мае многа ствалоў і адну карону.

На Цэйлоне вядомы такі лес, які мае пад адной каронай 1300 тоўстых і больш 3000 тонкіх ствалоў. Галоўны ствол гэтага дрэва - гіганта мае ў дыяметры 2 м.

## На Беларусі знойдзена дрэва, якому 1 мільён год

Будаўнікі Салігорскага паташавага камбіната ў Беларусі натрапілі на глыбіні 75 м на вялікі пень дрэва, які знаходзіўся ў тоўстым слоі пяску.

Калі дрэва дасталі на паверхню, яно пачало расслайвацца. Спецыялісты геалагічнага музея сцвердзілі, што гэтае дрэва расло больш мільёна год назад.

Паўночна - беларуская геалагічная экспедыцыя дабыла з зямлі яшчэ некалькі падобных экспанатаў. Яны маюць вялікую вартасць для навукі.

# КОЛЬКІ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў СССР

Усяго ў СССР на 15 студзеня 1959 г. пражывала 208 826 650 чалавек. У тым ліку мужчын — 94 050 303, жанчын — 114 776 347 чалавек. Гарадское насельніцтва складае 99 977 695 чалавек (48 прац.), вясковае— 108 848 955 чалавек (52 прац.).

Усяго беларусаў ва ўсім СССР жыве 7 829 тыс. Насельніцтва БССР складае 8 055 тыс., у тым беларусаў — 6 444 тыс. Значыць, 1 385 тыс. беларусаў жыве па-за межамі БССР.

У Беларусі акрамя беларусаў ёсць рускія — 729 тыс., палякі — 539 тыс., украінцы — 150 тыс., яўрэі — 150 тыс.

Беларусы жывуць таксама ў РСФСР — 845 тыс., на Украіне — 291 тыс., у Казахстане — 108 тыс., Літве — 30 тыс. Латвіі — 61 тыс., Эстоніі — 11 тыс.

(Даныя ўзяты са спісу насельніцтва СССР, апублікаванага ў друку СССР у пачатку лютага).

# МОДА



**УЗОРЫ ДЗІЦЯЧАЙ ВОПРАТКІ**



 

# АШУКАНСТВА не АПЛАЧВАЕЦЦА

— Крыху малавата адной толькі зарплаты, а выпіць так хочацца, — думаў сабе былы працаўнік скупкі жывёлы ў Нараўскай ГС (Гайнаўскі павет) грам. Аляксандр Кур'яновіч.

Але ж не дарма гаворыцца, што чалавек — гэта разумная істота і ўмее думаць. Аказваецца і Аляксандр Кур'яновіч не хварэе на розум і ўмее павялічыць свой даход. Ён даўно ўжо прыкмеціў, што у свіней, якія прадаюць сяляне ў ГС, добрая поўсць. А як жа можна выгадна прадаць у гэтым жа ГС-е, дзе ён працаваў.

І пачаў Аляксандр употайкі рваць з закупленых ім свіней поўсць. Пачаткова панямногу, але, як гавораць, апетыт разгараецца падчас ежы. Грошыкі за праданую поўсць плылі, а бяскарнасць падбадзёрвала. Кур'яновічу і на думку не прыходзіла, што мучыць жывую жывёлу гэта па меншай меры варварства. Аднак для яго існавалі толькі грошы.

Урэшце, пакалечаныя свінні звярнулі ўвагу насельніцтва і праўлення Нараўскай ГС. За падобныя махінацыі грам. Кур'яновіч быў пакараны нават грашовым штрафам. Махінацыі скончыліся.

Аднак грам. Кур'яновіч не зрабіў з гэтага ніякага вываду. Але горш, што ніякага вываду не зрабіла праўленне Нараўскай ГС, пакідаючы працаваць Кур'яновіча на ранейшым месцы.

Расмакаваўшыся дадатковым даходам ён і надалей не мог без яго абыходзіцца. А што Аляксандр не хварэе на выдумку, гэта падцвердзілася яшчэ раз. Прагарэўшы на поўсці, ён учапіўся за вагу. Пачаў ашукваць сялян на вазе. Але, да пары збан воду носіць. І на гэты раз Кур'яновічу падвярнулася нага.

Калі сяляне заехалі ў Бельск, куды адвозіліся закупленыя свінні, і пераважылі іх, аказалася, што вага паасобных свінней была большая амаль на 10 кг., чымсьці запісаў у квітах прадпрыемлівы працаўнік скупу.

Ашуканцам зацікавіліся органы справядлівасці.

(пч)

# У ГАЦЬКАХ АРГАНІЗАВАЎСЯ КАМІТЭТ БУДОВЫ ШКОЛЫ

На пачатку лютага г. г. у Гацьках (Бельскі павет) арганізаваўся камітэт будовы школы-помніка 1000-годдзя Польскай дзяржавы. Які сцвярджае інспектар А. Гіншт, ад сялян Гацек, Храбол і Грынявіч патрэбны грашовы ўклад у суме 120 тысяч злотых. Астатнія патрэбныя сумы дасць дзяржава. Калі хутка збярэцца сялянамі сума 120 тыс. зл., дык ужо вясною прыступяць у Гацьках да будовы школы. Значыць, усё залежыць ад актыўнасці сялян.

(мх)

# НОВАЕ І ПА-НОВАМУ

Калі ўваходзіш у памяшканне Грамадскай рады нарадовай у Храбалах (Бельскі павет), дык з першага позірку адчуваеш, што працаўнікі вельмі дбаюць, аб выглядзе месца сваёй працы. Тут і дзверы зачыняюцца добра, і печкі грэюць, няма купаў смецця. Адным словам, парадак, як у добрага, дбайнага гаспадара. Наведвальнікі, прыходзячы ў ГРН, адчуваюць сябе, як у сапраўднай адміністрацыйнай установе. Трэба ж ведаць, што ГРН у Храбалах наведвае цяпер шмат сялян, бо да яе, у выніку ліквідацыі і спалучэння некаторых ГРН-аў, далучаны ГРН-ы ў Плёсках, Рыбалах, Гацьках і Паўлах. Такім чынам, ГРН у Храбалах займае цяпер шмат вёсак.

Ветлівы старшыня ГРН тав. Мікола Ракоўскі, расказаўшы аб цяжкасцях у працы, якія часова нахлынулі ў сувязі з павелічэннем тэрыторыі сваёй Грамадскай рады нарадовай, запрапанаваў наведаць свой аддзел запісаў актаў грамадзянскага стану. Невялікі, але вельмі прыемна, утульна і вясёла абсталяваны пакой. Пасярэдзіне стол, засланы зялёным аксамітам, 2 крэслы, якія займае маладая пара падчас урачыстасці, 3 прыгожых стула. Над сталом, са столі звісае жырандоль, сцены абітыя паперай, столь і падлога пафарбаваны алейнай фарбаю. На сцяне — прыгожы дыван. Адным словам, усё аж блішчыць.

# АБ ХРАБУСТОЎСКАЙ КРАМЕ

Да 1956 года ў Храбустоўцы не было крамы. Калі трэба было што-небудзь купіць, трэба было ісці за 4 км у Нарву. Задумалася моладзь: ці не варта было б пабудаваць краму ў сваёй вёсцы? А то рознае здараецца: ці гасціна, ці хто ў сваты прыедзе — трэба бегчы за 4 км, там шукаць крамара, а часам прыходзіцца вяртацца дадому ні з чым.

Вясною 1956 года моладзь Храбустоўкі ўзялася грамадскім чынам пабудаваць краму. Заклалі фундамент. Усе жыхары дапамагалі, чым толькі маглі: адзін дрэва даваў, другі — грошы, іншыя — сваёй працай на пабудове. Нялёгка даваліся. Удзень працавалі на сваім полі, а ўвечары будавалі краму. Хутка вырас будынак. Крамаром стаў спачатку Мікола Семянюк, а ад кастрычніка 1959 года — Валодзя Семянюк. Прыемна зайсці ў краму, калі там працуе ветлівы чалавек, з усмешкай на вуснах. Семянюк не лічыцца з гадзінамі працы, і заўсёды, калі зойдзе патрэба, абслужыць пакупніка. Ён клапоціцца, каб заўсёды было дастаткова тавару ў краме, каб на магчымасці задаволіць патрэбы кожнага.

Жыхары Храбустоўкі і навакольных вёсак вельмі ўдзячны свайму крамару і жадаюць яму поспехаў у далейшай працы.

*Генік Беразавец*
Лапухоўка

# У сельскай бібліятэцы

Зацікавіць кніжкаю, прывіць любоў да яе — гэта нялёгкая справа. З гэтаю задачаю бібліятэкарша Тэрэса Пахо ў Москаўцах (Бельскі павет) даволі добра спраўляецца. Яна зацікавіла да кніжкі жыхароў Москаўцаў наступным спосабам. Склікае сход аматараў чытання кніжак уголас. А чытае яна цікава, эмацыянальна. І на сходы - чыткі збіраецца шмат людзей. Сярод слухачоў выяўляюцца таксама здольныя людзі, якія патрапяць прыгожа чытаць. Апошні раз у бібліятэцы чыталі «Ціхі Дон» М. Шолахава. Змяняў бібліятэкаршу ў чытанні солтыс Вінцук Паплаўскі.

Слухачы і не заўважылі, як хутка праляцеў час. Разышліся яны ў 12 гадзін ночы.

Прыклад бібліятэкаршы з Москаўцаў варта наследваць і іншым бібліятэкарам.

М. Х.

# ССМ дапамагае будаваць школу

Гурток Саюза Сялянскай моладзі ў Алексіне актыўна ўключыўся да будовы школы ў сваёй вёсцы. Са сваіх мастацкіх выступленняў гурток мае пэўныя даходы і з іх 15 000 зл. прызначыў на будову школы.

(мх)

# ПАТРЭБНА ПЯКАРНЯ

Узрадаваліся жыхары Ялоўкі (Беластоцкі павет), калі ў 1957 г. узнікла ў Ялоўцы пякарня. Яе тады наладзіў і ўтрымліваў як уласнасць гр. Марыян Ліпскі з Беластока. Штодзённа ён прадаваў жыхарам Ялоўкі і іншых вёсак 500 кг хлеба, што забяспечвала ў асноўным іх патрэбы. Жыхары Ялоўкі жывуць бедна, маюць вельмі малыя гаспадаркі і таму многія купляюць хлеб амаль увесь год. 1-га мая 1959 года з невядомых прычын Ліпскі ліквідаваў сваю пякарню.

Цяпер хлеб дастаўляецца ў мясцовую краму з пякарні ў Міхалове. Але колькі ж яго можна прывезці фурманкаю з Міхалова, якое знаходзіцца за 27 км? Дастаўляецца толькі 200 кг хлеба на цэлы тыдзень.

Аказваецца, ГРН тут бездапаможная. Можа большымі порцыямі хлеба прывітае жыхароў Ялоўкі ПРН у Беластоку?

(МК)

# КАШТОЎНАЯ НАРАДА

Нядаўна ў Сямяцічах адбылася павятовая нарада жанчын. Жанчыны абмяркавалі дзейнасць гурткоў вясковых гаспадынь і выказалі многа ініцыятывы ў барацьбе з цемрай, якая праяўляецца ў знахарстве і забабонах. Удзельніцы нарады звярнулі ўвагу павятовых улад на патаемны кабачкі і на спекуляцыю мясам, а таксама на клерыкальную прапаганду супраць дзейнасці таварыства свядомага мацярынства.

Нарада закончылася каштоўнымі практычнымі гастранамічнымі ўрокамі: як рабіць салатку і як пячы пірог і пячэнне.

(мх)

„NIWA"

Organ ZG BTSK. Adres ZG BTSK: Białystok. Warszawska. 11 tel. 54-14

Redaguje Kolegium. Adres redakcji: Białystok ul. Wesołowskiego 1 tel. centr 37-41 red naczelny i sekretariat 25-89

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa"

Warunki prenumeraty w Polsce: miesięcznie — 2 40 zł kwartalnie — 7.20 zł półrocznie — 14 40 zł rocznie — 28 80 zł.

Wpłaty kierować na PKO 12-6-1312 w Białymstoku dla PUPiK Ruch" Na odwrocie należy zaznaczyć na jaki adres dokonano wpłaty i podać tytuł pisma.

Prenumeratę na Niwę" przyjmują również wszystkie urzędy pocztowe i listonosze w całym kraju Cena prenumeraty za granicą: kwartalnie — 10.15 zł półrocznie — 20 30 zł i rocznie — 40.60 zł Należność na prenumeratę za granicą wpłacać na konto — PKO 1-6- 100024 PKWZ „Ruch" Warszawa.

Zamówienia na Niwę" z krajów europejskich, jak i zamorskich (z wyjątkiem krajów demokracji ludowej należy kierować pod adresem CHZ ARS POLONA" Warszawa Krakowskie Przedmieście 7 Obowiązuje przedpłata na konto N.B.P Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi $ 4.16

Nkł. 5.000 Bltk N-1

# ТАКІХ БОЛЬШ!

### ПЕРАДАВЫ ПІСЬМАНОСЕЦ

На пошце ў Дубічах - Царкоўных працуе пісьманосец Іван Кірылюк. Ён абслугоўвае шэсць вёсак: Вітава, Пасечнікі Малыя, Краскоўшчыну, Чэхі Арлянскія, Грабавец і палавіну сваёй вёскі. Іван Кірылюк добра абслугоўвае чытачоў і з'яўляецца добрым прапагандыстам газет і часопісаў.

М. П.

✲

### ВЕТЛІВЫ ПІСЬМАНОСЕЦ

Наша вёска, Тынявічы Вялікія, належыць да пошты ў Кленіках. Нашым пісьманосцам з'яўляецца Васіль Барташэвіч. Ён ветлівы як з дарослымі, так і з малымі. За гэта мы яго паважаем і любім.

В. Л.

✲

### ДЗЯКУЮЦЬ

Вучні і настаўнікі пачатковай школы ў Рыбаках дзякуюць Кацярыне Янушко за падарункі на Навагоднюю ёлку і жадаюць ёй шчасця і поспехаў у працы.

✲

### ЗА ШЫРЭЙШУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

11 лютага ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне ваяводскага аддзела народных хораў і тэатраў. Пленум абмяркаваў дзейнасць саюза на 1960 год. У праграме дзейнасці прадугледжана, што ў гэтым годзе пераважна ў паўночных паветах будуць арганізаваны у многіх мясцовасцях спектаклі «Конрад Валенрод» і «Гражына». Шкада, што ваяводскі аддзел саюза народных хораў і тэатраў зусім мінае паветы з беларускім насельніцтвам, у якіх дзейнасць гэтага саюза напэўна мела б вялікую папулярнасць.

М. Х.

✲

### КАШТОЎНЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ ПКО

Пашырэнне культуры асабістых выдаткаў з'яўляецца важнай справай у нашым грамадстве. Колькі непрадуманых і непатрэбных выдаткаў робім мы з лёгкасцю на сэрцы. Куды лепш было бы, каб гэтыя грошы ўлажыць на ашчадную кніжку, тады і дзяржава мела б карысць і той, хто ашчаджае.

Каб пашырыць ідэю і практыку ашчаднасці, Ваяводскі Аддзел ПКО у кастрычніку 1959 года (бо тады прыпадае месяц пашырэння ашчаднасці) арганізаваў конкурс. Мэтай конкурсу было атрыманне большай колькасці членаў, якія рэгулярна штомесяц умеюць эканоміць грошы. Гэты конкурс карыстаўся вялікім поспехам, добра садзейнічаў прывіццю навыкаў ашчаднасці. 5-га лютага гэтага года адбылося лясаванне ўзнагарод для ўдзельнікаў конкурсу. Ітак, Станіслава Ліжэўская з Ламжынскага павета выйграла матацыкл ВФМ, Мечыслаў Абранцэвіч з Элку — халадзільнік, Валерыя Красоўска з Лап — радыёпрыёмнік, Янка Аўдзяевіч з Орлі — пральку, Анатоль Цехан з Беластоку — дзве капы на ложак. 22 асобы атрымала каштоўныя ўзнагароды за ўдзел у конкурсе ашчаднасці.

Значыць, вельмі карысна выхоўваць у сабе новыя маральныя каштоўнасці, якімі з'яўляецца культура асабістых выдаткаў і навыкі ашчаднасці.

М. Х.

